# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland")

(8) München 19. Schliessfach 69

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.

**Цана: Нямеччына** (іншыя эўрапэйскія краіны бяз Францыі й паўдзённаамэрыканскія краіны): год — 12,5 н. м.; **ЗША й Канада:** год — 6,5 дал.; **Ангельшчына й Аўстралія:** год — 30 шыл.; **Францыя:** год — 12,5 н. ф. **Паўгода — палавіна пададзенае цаны. Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",

Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 9 (609) — 1. жнівеня 1963 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 17


# Маскоўскія перамовы

Апошнімі тыднямі Масква была цэнтрам увагі ўсіх, хто цікавіцца палітычнымі справамі. Гэта — з прычыны амэрыканска-ангельска-савецкіх і савецка-кітайскіх перамоваў. І першыя і другія перамовы выклікаюць вялікую ўвагу таму, што яны могуць стацца важнымі вехамі на шляху далейшага разьвіцьця сусьветнага палітычнага палажэньня.

Савецка-кітайскія перамовы ў ідэялягічных пытаньнях закончыліся бяз ніякіх пазытыўных вынікаў. Абодва бакі засталіся на сваіх папярэдніх пазыцыях. Пасьля некалькіх нерэгулярных сустрэчаў з савецкай дэлегацыяй, кітайцы з халоднай ветлівасьцяй разьвіталіся з сваімі савецкімі «таварышамі» і вярнуліся ў Пэкін, дзе ім было наладжанае трыюмфальнае спатканьне, як пасьля вялікай перамогі. Магчыма што безрэзультатнасьць гэтых перамоваў кітайскія камуністычныя лідары ўважаюць вялікім дасягненьнем, паколькі гэта больш падкрэсьліла іхную незалежнасьць ад Масквы і дае ім магчымасьць да больш адкрытага самастойнага дзеяньня, як аднаго з кіруючых цэнтраў сусьветнага камуністычнага руху. Аб'ектыўна бяручы, маскоўскія савецка-кітайскія перамовы падкрэсьлілі раскол у камуністычным лягеры. Яны ў пэўнай ступені легалізавалі існаваньне двух варожых камуністычных цэнтраў. Кожны з гэтых цэнтраў цяпер адкрыта намагаецца аб'яднаць навокал сябе найбольшую колькасьць прыхільнікаў сярод кампартыяў камуністычных і некамуністычных краінаў. Тэндэнцыі да расколу на прасавецкія і пракітайскія фракцыі назіраюцца ў кампартыях Італіі, Бэльгіі і іншых краінаў. Кіраўніцтвы некаторых кампартыяў займаюць пазыцыю чаканьня, іншыя сьпяшаюцца задэкляраваць сваю падтрымку савецкаму кіраўніцтву, хоць гэта, у сваю чаргу, ня выключае існаваньня ў іх пракітайскай апазыцыі. У савецкім блёку кітайцы могуць пахваліцца сымпатыямі да іх з боку камуністычных кіраўнікоў Румыніі, якія ў апошняй фазе савецка-кітайскіх ідэялягічных спрэчак выразна падтрымлівалі кітайскую пазыцыю, прамоўчваючы ў сваёй прэсе савецкія аргументы і публікуючы кітайскія.

Няма сумлеву, што кітайская камуністыя займаюць больш скрайнія, дагматычныя і ваяўнічыя пазыцыі, чымся савецкае кіраніцтва. Але гэта яшчэ не азначае, што Хрушчоў стаўся дэмакратам-лібэралам. І Хрушчоў і Мао Цзэ Дун далей прытрымліваюцца тае самае догмы аб няўхільнасьці перамогі камунізму ўва ўсім сьвеце. Разыходжаньні паміж імі палягаюць у мэтадах. Хрушчоў абяцае дасягнуць сусьветнае камуністычнае панаваньне «мірным» шляхам — шляхам лякальных камуністычных рэвалюцыяў, Мао Цзэ Дун уважае за лепшае беспасярэднюю ваенную інтэрвэнцыю з боку «сацыялістычнага лягеру». Зрэштай, сваю вернасьць камуністычнаму дагматызму Хрушчоў як ня трэба лепш прадэманстраваў нядаўна сваімі дачыненьнямі да інтэлігенцыі падсавецкіх народаў.

Маючы гэта на ўвазе, цяжка падзяляць той энтузіязм, зь якім бальшыня заходніх камэнтатараў ставіцца да перамоваў у Маскве паміж прадстаўнікамі Злучаных Штатаў, Ангельшчыны і Савецкага Саюзу ў справе падпісаньня пагадненьня аб спыненьні ядзерных выпрабаваньняў. Усім ведама, што з малымі выняткамі, ўсе пагадненьні, падпісаныя дасюль заходнімі дзяржавамі з савецкім урадам, выявіліся бязвартаснымі шматкамі паперы — дзеля таго, што Савецкі Саюз іх ніколі не рэспэктаваў. Няма ніякай гарантыі што цяпер становішча савецкага ўраду ў гэтым пытаньні зьмянілася.

Ня гледзячы на гэта, у заходніх палітычных колах пануе вялікі аптымізм з прычыны перакананьня, што пагадненьне аб частковым спыненьні ядзерных выпрабаваньняў будзе на днях падпісанае. Перамовы трымаюцца ў сакрэце. Аднак, наколькі ведама, прадбачанае пагадненьне датычыць забароны выпрабаваньняў у атмасфэры, у космасе і пад вадой. Забарона не абымае выпрабаваньняў пад зямлёй.

Апрача таго, Хрушчоў прапанаваў і іншыя мерапрыемствы дзеля «паслабленьня міжнароднага напружаньня». Ён прапануе падпісаць пакт аб ненападзе паміж краінамі НАТО і краінамі Варшаўскага ваеннага блёку, а таксама наладзіць кантрольныя пункты на лётнішчах, чыгуначных вузлах, на аўтамагістралях і ў буйнейшых партох заходніх і падкамуністычных краінаў. Зьдзіўляе раптоўная згода Хрушчова на такі шырокі кантроль на савецкай тэрыторыі, што да гэтага часу ён адкідаў, называючы «шпіянажам». Паводля Хрушчова, заходнія дзяржавы маглі-б таксама мець сваіх прадстаўнікоў пры савецкім войску, разьмешчаным у савецкай зоне Нямеччыне, а савецкі ўрад меў-бы сваіх прадстаўнікоў пры войску заходніх дзяржаваў, разьмешчаным у Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспубліцы. Хрушчоў таксама заявіў, што савецкі ўрад гатовы весьці перамовы аб скарачэньні колькасьці замежнага войска, якое знаходзіцца на тэрыторыі заходняй і ўсходняй Нямеччыны.

На Захадзе спачатку ўважалі, што Крэмль узалежнівае падпісаньне ўмовы аб забароне ядзерных выпрабаваньняў ад згоды Захаду падпісаць пагадненьне аб ненападзе паміж краінамі НАТО і краінамі Варшаўскага пакту. Пазьней выявілася, што такой залежнасьці Крэмль ня робіць. Із заяваў Хрушчова вынікае, што савецкі ўрад гатовы падпісаць умову аб забароне ядзерных выпрабаваньняў у атмасфэры, космасе і пад вадой незалежна ад таго, ці будзе падпісаная ўмова аб ненападзе ці не.

Фактычна савецкі ўрад высунуў прапанову падпісаць тры асобныя ўмовы: аб забароне ядзерных выпрабаваньняў, аб ненападзе і аб «увядзеньні некаторых мерапрыемстваў для папярэджаньня раптоўнага нападу». Усе гэтыя мерапрыемствы савецкі ўрад прадстаўляе, як этапы на шляху да разьвязаньня найважнейшай праблемы — праблемы нямецкай.

Адносна трэцяй савецкай прапановы заходнія дзяржавы не занялі яшчэ афіцыяльнага становішча. Другая прапанова — пакт аб ненападзе паміж НАТО і Варшаўскім пактам — выклікала адмоўную рэакцыю з боку заходніх дзяржаваў. Падпісаньне пакту аб ненападзе паміж НАТО і Варшаўскай ваеннай арганізацыяй азначала-б прызнаньне заходнімі краінамі ўраду і рэжыму савецкай зоны Нямеччыны, бо гэтак званая Нямецкая Дэмакратычная Рэспубліка зьяўляецца сябрам Варшаўскага пакту, а праз гэта ўскосна легалізаваўся-б і ўвекавечваўся-б падзел Нямеччыны на дзьве незалежныя дзяржавы. Такім чынам Хрушчоў пры дапамозе «мірнага суіснаваньня» дасягнуў-бы тое, чаго яму не ўдалося дасягнуць шляхам ультыматумаў і ваенных пагрозаў.

Урад Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі адразу выказаўся супраць такога пакту аб ненападзе. З свайго боку, прадстаўнік амэрыканскай дэлегацыі на цяперашніх маскоўскіх перамовах тлумачыў Хрушчову, што такі пакт ня можа быць падпісаны бяз удзелу Францыі, Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі і іншых сяброў НАТО.

Былі пашыраныя чуткі, што на месца пакту аб ненападзе, заходнія дзяржавы былі-б згодныя на супольную заходня-савецкую **дэклярацыю** аб ненападзе, бо ў такі спосаб можна было-б унікнуць юрыдычнага прызнаньня рэжыму Ўльбрыхта і падзелу Нямеччыны.

Становішча Францыі да амэрыканска-савецка-ангельскіх перамоваў было сфармуляванае францускім урадам наступна: Францыя ня прызнае забавязваючымі для сябе ніякіх пагадненьняў, у выпрацоўцы і падпісаньні якіх яна ня брала ўдзелу. Уважаючы, што на долю Францыі прыпадае рэпрэзэнтацыя і абарона інтарэсаў Эўропы, францускі ўрад мае намер далей працаваць над разбудовай ўласнага атамнага ўзбраеньня, гэта значыць, ня гледзячы на эвэнтуальнае амэрыканска-савецка-ангельскае пагадненьне аб забароне, далей праводзіць уласныя ядзерныя выпрабаваньні.

Як адзначылі францускія газэты, Францыя ў саюзе зь Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікай лічыць сваім абавязкам сачыць за тым, каб не паўтарылася другая Ялта, ведамая сваімі трагічнымі вынікамі для Эўропы.

**М. К.**

# Тыдзень Паняволеных Народаў

17-га ліпеня 1959-га году абедзьве Палаты Амэрыканскага Кангрэсу аднагалосна прынялі рэзалюцыю, у якой прапанавалі прэзыдэнту Злучаных Штатаў кажны год абвяшчаць трэці тыдзень ліпеня Тыднем Паняволеных Народаў. У гэтай рэзалюцыі былі пералічаныя ўсе паняволеныя расейскім бальшавізмам, як і наагул камунізмам народы, у тым ліку і наш беларускі народ. Ад гэтага часу штогоду гэты Тыдзень урачыста адзначаецца ўва ўсёй Амэрыцы, а прэзыдэнт Злучаных Штатаў выдае з гэтае нагоды адмысловую Дэклярацыю.

Напрацягу гэтага Тыдня амэрыканскі народ выказвае свае сымпатыі паняволеным камунізмам народам і маніфэстуе сваю маральную падтрымку гэтым народам у іхным змаганьні за нацыянальную незалежнасьць і сацыяльную справядлівасьць.

Сёлета гэты Тыдзень трываў ад 14-га да 20-га ліпеня. 5-га ліпеня Прэзыдэнт Кэнэды абвесьціў з гэтае нагоды наступную **Дэклярацыю:**

*«Бяручы на ўвагу тое, што супольнай рэзалюцыяй з 17-га ліпеня 1959 году быў прыняты артыкул 72 закону 212, якім Кангрэс упаўнаважыў і прасіў Прэзыдэнта Злучаных Штатаў Амэрыкі выдаць Дэклярацыю, абвяшчаючы трэці тыдзень ліпеня 1959 году «Тыднем Паняволеных Народаў», і выдаваць падобную Дэклярацыю штогоду — да часу пакуль ня будзе здабытая свабода й незалежнасьць для ўсіх паняволеных народаў сьвету, і*

*— Дзеля таго, што правы чалавека і пачуцьцё ўласнае годнасьці зьяўляецца ўсеагульным імкненьнем, і*

*— Дзеля таго, што справядлівасьць патрабуе прызнаньня элемэнтарных правоў чалавека на свабодны выбар, і*

*— Паколькі наш народ уносіць сталы ўклад у прынцыпы нацыянальнага самавызначэньня і свабоды чалавека, —*

*Дзеля таго, я, ДЖОН Ф. КЭНЭДЫ, прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амэрыкі, гэтым абвяшчаю тыдзень, які пачынаецца 14-га ліпеня 1963-га году — «Тыднем Паняволеных Народаў».*

*Я прашу народ Злучаных Штатаў Амэрыкі ўшанаваць гэты Тыдзень належнымі ўрачыстасьцямі і дзейнасьцяй. Я заклікаю ізноў наш народ выказаць сваю падтрымку справядлівых імкненьняў усіх народаў да нацыянальнай незалежнасьці і свабоды».*

Гэтую Дэклярацыю прэзыдэнта падтрымалі губэрнатары шмат якіх штатаў і мэры гарадоў Злучаных Штатаў.

Найбольш урачыста адзначылі гэты Тыдзень у гарадох Чыкага, Філядэльфія, Нью Ёрк, Кліўленд, Бастон і Дэтройт.

У Нью Ёрку у доме Асамблеі паняволеных народаў, які знаходзіцца насупраць будынку Аб'еднаных Нацыяў, 14-га ліпеня адбылася ўрачыстая цырымонія. Былі паднесеныя сьцягі паняволеных народаў, у тым ліку і наш беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. На гэтай урачыстасьці выступаў ад штату Індыяна — **Вільям Брэйк,** а таксама кіраўнік Таварыства амэрыканскіх прыяцеляў паняволеных народаў — Крыстафор Эмэт. Таго-ж дня ў Саборы сьв. Патрыка адбылася ўрачыстая багаслужба кардынала Спэльмана. Таксама адбыліся багаслужбы ў пратэстанцкіх саборах Нью Ёрку.

Ува ўрачыстасьцях і маніфэстацыях бралі ўдзел прадстаўнікі розных паняволеных народаў, у тым ліку й Беларусы. Нацыянальны камітэт паняволеных народаў выслаў прэзыдэнту Кэнэды тэлеграму, у якой дзякуе прэзыдэнту за сёлетні выпуск Дэклярацыі.

Трэба адзначыць, што сёлетняе абвешчаньне Тыдня Паняволеных Народаў адбылося ў даволі складаных і дэлікатных міжнародных палітычных абставінах. І, як бачым, усё-ж прэзыдэнт сваёй Дэклярацыяй яшчэ раз падкрэсьліў, што ніякія палітычныя абставіны ня могуць змусіць Злучаныя Штаты пайсьці на шлях апартунізму, забыцца аб абвешчаных лёзунгах пра свабоду і незалежнасьць паняволеных камунізамам народаў.

У сувязі з Тыднем Паняволеных Народаў амэрыканская прэса зьвярнула ўвагу на два паведамленьні з Масквы. Першае — гэта войстрая атака газэты «Праўда» 7-га ліпеня супраць сёлетняй Дэклярацыі Тыдня Паняволеных Народаў. Другое — гэта стварэньне ў Маскве Камітэту для культурных узаемадачыненьняў з суайчыньнікамі заграніцай — Расейцамі, Беларусамі, Украінцамі, Латышамі, Эстонцамі, Ліцьвінамі, Армянамі, і іншымі. У некаторых палітычных колах Амэрыкі заснаваньне гэтага Камітэту тлумачаць, як новую спробу пашырыць разбуральную працу сярод усходня-эўрапэйскіх эмігрантаў.

Адначасова амэрыканская прэса адзначыла, што на нядаўных пленумах ЦК КПСС і ЦК рэспубліканскіх кампартыяў быў зроблены новы націск супраць паняволеных народаў пад шыльдай паходу супраць гэтак званага буржуазнага нацыяналізму.

*А. Г.*

# Сумная статыстыка

Як адно з найбольшых сваіх дасягненьняў, савецкі рэжым падае разьвіцьцё савецкага школьніцтва. Нельга запярэчыць, што ў гэтай галіне зроблена нямала, асабліва ў колькасным аспэкце. Але на Беларусі й пад гэтым поглядам апошнімі гадамі назіраецца застой, а ў галіне сельскага школьніцтва нават відавочны заняпад.

Вось дадзеныя, узятыя з чацьвертага нумару «Вестніка статістікі» за гэты год. У ім Цэнтральнае Статыстычнае Бюро СССР падае такія лічбы адносна колькасьці школаў для вясковае моладзі:

У 1953—54 навучальным годзе Беларусь мела 1049 вясковых школаў. Пяць гадоў пазьней, гэта значыць у 1958—59 навучальным годзе, з папярэдняй колькасьці засталося 448 школаў. Гэта значыць — за гэты час колькасьць школаў зьменшылася больш як на палавіну. Праз тры гады — у 1961-62 навучальным годзе, колькасьць вясковых школаў павялічылася да 915-ці, а ў наступным навучальным годзе, гэта значыць 1962-63, колькасьць гэтых школаў упала да 884.

Гэтыя дадзеныя паказваюць ня толькі тэндэнцыю да зьменшаньня агульнага ліку школаў для сельскай моладзі, але йдуць у разрэз з прыростам вучнёўкай моладзі. Найбольш пачатковых школаў у Беларусі налічвалася ў 1953-54 годзе — 10 гадоў пасьля вайны, якраз у гэтым часе школы ахоплівалі тую моладзь, якая нарадзілася ў часе вайны або хутка пасьля яе, калі нараджальнасьць на нашай бацькаўшчыне была найменшай. Выглядала-б, што ў наступным дзесяцігодзьдзі, калі ў школы пачалі наплываць вучні, народжаныя ў больш-менш нармальны пасьляваенны пэрыяд, колькасьсць пачатковых школаў павінна была-б павялічыцца. Савецкая-ж статыстыка паказвае, што ў Беларусі дзеецца зусім адваротнае.

Зразумела — ніхто не закрывае школаў бяз прычыны. Камуністычныя ўлады ў Беларусі напэўна хацелі-б бачыць большую колькасьць школаў у рэспубліцы ўжо хоць-бы дзеля таго, каб мець чым пахваліцца навонкі.

Чым-жа тады вытлумачыць гэтую ненармальнасьць? Можна было-б тлумачыць гэта перасяленьнем сельскага насельніцтва ў гарады; будаўніцтвам у сельскай мясцовасьці на месца старых — новых, **большых** школьных будынкаў. Але перасяленьне ў гарады і будаўніцтва новых школаў адбываецца ўва ўсіх рэспубліках. Між тым, усе савецкія рэспублікі, за выняткам Беларусі й Малдавіі, у гэтым часе прынамся падвоілі колькасьць сваіх сельскіх школаў, а некаторыя, як напрыклад Эстонія, пабольшыла ў пяць разоў.

Пададзеныя намі лікі аб пачатковым школьніцтве ў Беларусі й адпаведныя параўнаньні зь іншымі рэспублікамі зьяўляюцца трагічнымі. Яны ня могуць ня трывожыць увесь наш народ. Яны наглядна паказваюць, да якіх страшэнных вынікаў даводзіць стасаваная і далей на нашай бацькаўшчыне практыка перасяленьня маладога пакаленьня нашага народу ў розныя далёкія раёны Савецкага Саюзу. Усім ведама, што насельніцтва Беларусі на працягу савецкай ўлады, ня толькі не павялічаецца, а ўсьцяж памяншаецца. Прыклад з школьніцтвам у беларускіх сельскагаспадарчых раёнах паказвае, якія катастрафальныя вынікі далейшыя перасяленьні маладога элемэнту могуць мець для будучыні нашага народу. На Беларусі, якая ад вякоў вызначалася вялікім натуральным прыростам насельніцтва, раптам не стае моладзі, каб запоўніць існуючыя школы. Не стае таму, што зьмяншаецца маладое пакаленьне, якое магло-б ствараць новыя сем'і. А гэта шмат значыць для будучага існаваньня і разьвіцьця нашай нацыі.

# Увага, Беларусы ЗША й Канады!

Ад 30 жнівеня да 3 верасьня 1963 г. адбудзецца ў Чыкага, ЗША, у рамах **Тыдня Студыяў** вялікі беларускі Зьезд з ЗША і Канады дзеля ўрачыстага адзначэньня 100-х угодкаў ПАЎСТАНЬНЯ 1863—64 пад правадніцтвам Кастуся Каліноўскага. Усе асноўныя даклады будуць прысьвечаны гэтаму вялікаму антымаскоўскаму змаганьню нашага Народу, якое прадаўжаецца й у нашыя дні. Апрача дакладаў будзе мастацкая частка, аналіза сучаснага нацыянальна-вызвольнага палажэньня і прыняцьце рэзалюцыяў ды далейшых вытычных.

У справе бліжшых інфармацыяў зьвяртацца на адрыс:

Беларускі Культурна-Рэлігійны Цэнтар у Чыкаго,

3107 West Fullerton Avenue
Chicago 47, Illinois
Phone Capitol 7-0029
Rev. Vladimir L. Tarasevitch

# ХУ Канфэрэнцыя й Асамблея Інстытуту Вывучэньня СССР

16-17 ліпеня сёлета ў Мюнхэне, у залі Нямецкага музэю, адбылася штогодная, лікам ужо XV-я, навуковая канфэрэнцыя Інстытуту Вывучэньня СССР, а 19 ліпеня ў тым-жа Мюнхэне, у будынку гэтага Інстытуту — чародная асамблея — агульны зьезд сяброў Інстытуту.

Канфэрэнцыю адчыніў кароткім вітальным абвешчаньнем дырэктар Інстытуту д-р Г. Шульц, пасьля якога з такім-жа кароткім вітаньнем выступіў старшыня Навуковае Рады Інстытуту д-р С. Тарасян.

Гэтым разам канфэрэнцыя была прысьвечаная вельмі цікавай і актуальнай тэме — «Савецкая літаратура й савецкая рэчаіснасьць». Кароткае ўступнае слова да яе зрабіў пакліканы на ганаровага старшыню канфэрэнцыі прафэсар-эмэрыт Мюнхэнскага ўнівэрсытэту Ф. Стэпун. Ён падчыркноў, што суб'ектам літаратуры заўсёды бывае нацыя, носьбіт мовы, вонках якое ня можа быць літаратуры, і ўсякія спробы зрабіць ейным суб'ектам нейкі іншы грамадзкі дзейнік — клясу, ці партыю прыкладам — няўхільна вядуць да выраджэньня літаратуры ў макулятуру, як гэта добра пацьвярджаецца на выпадку савецкае літаратуры. Толькі ў тых разох, калі нацыя так ці накш даходзіць да ролі суб'екта літаратуры, зьяўляюцца і ў савецкім пісьменсьцьве запраўды мастацкія творы, у якіх прасьвечвае й запраўдная савецкая рэчаіснасьць.

У першым дакладзе першага дня канфэрэнцыі А. Штайнінгэр даў кароткі агляд розных этапаў літаратуры ў СССР, трымаючыся ў васноўным тае пэрыядызацыі, што была дадзеная на IX канфэрэнцыі Інстытуту ў 1957 г. Асноўным дакладам першага дня быў даклад праф. Л. Ржэўскага (з Швэцыі) на агалоўную тэму канфэрэнцыі — «Савецкая літаратура й савецкая рэчаіснасьць». У дакладзе была дадзеная вельмі каштоўная спроба мэтадалёгіі пытаньня. У інструкцыі, што абавязвае савецкага пісьменьніка й завецца «мэтадам сацыялістычнага рэалізму», праф. Ржэўскі адзначае два ўстановішчы: установішча на канечную праграмавасьць творства й установішча на забароньніцтва. Першае становіць вымаганьне аптымістычнага інтэграваньня «новага» ў жыцьці, зьвязанага із сьціраванасьцяй да комунізму й прызначанага на прапагандава-ўзгадавальную мэту, і яго пісьменьнік яшчэ можа неяк абмінуць. Затое вельмі цяжка абмінуць другое — індэкс бязумоўна забароненых савецкаму пісьменьніку творчых тэмаў і раскрыцьцёў. Дык у творах савецкіх пісьменьнікаў трэба заўсёды браць на ўвагу два паказальнікі: каэфіцыент праграмавасьці — г. зн. тыя асаблівыя калізіі, акцэнты й насьвятленьні ў паказе рэчаіснасьці, якія аўтар уводзіць у выкананьне абавязваючае інструкцыі й якія таму, як правіла, пазбаўленыя творчае аб'ектыўнасьці, і каэфіцыент забароньніцтва — г. зн. ступень аўтаравых замоўчваньняў, недаказаў дзеля немагчымасьці творчага выказваньня; каэфіцыент гэты можа знайсьці свой выраз і ў крыптаграфічнасьці твору.

Устанаўленьне гэтых каэфіцыентаў вядзець і да трэйцяга паказальніка — да вобразу аўтара, які можна й трэба рэканструяваць з тых акцэнтаў і прыпіскаў у паказе жыцьця, або наадварот — з замоўчваньняў, недаказаў і здагадванага падтэксту, што даюць гэныя каэфіцыенты. Карыстаючыся гэтымі паказальнікамі, праф. Ржэўскі ўстанаўляе два асноўныя патокі ў сучаснай савецкай літаратуры — традыцыйнага характару твораў на партыйнае замаўленьне й літаратуры новага творчага тыпу, які ён абазначае вельмі трапным тэрмінам «распрыгоньніцкі рэалізм» (у вадрознасьць ад праграмавага — «сацыялістычнага» — «рэалізму» партыйнага замаўленьня). Абедзьве плыні былі ўдала праілюстраваныя на матар'яле расейскае савецкае літаратуры.

Даклад праф. Ржэўскага быў дапоўнены двума судакладамі — А. Каракатэнкі, на тэму «Праблема дадатнага гэроя ў савецкай літаратуры», і Г. Дыкава, на тэму «Духовая апазыцыя ў савецкім грамадзтве», ды цэлаю чарадою кароткіх паведамленьняў (І. Бушман пра агульналюдзкае ў савецкай лірыцы, Ю. Пісьменнага пра савецкі гумар, М. Галая пра савецкую ваенную літаратуру, М. Менчукова пра навукова-ўтапічную літаратуру ў СССР ды Н. Тэадаровіч пра фрагмэнты рэлігійнае тэматыкі ў савецкай мастацкай літаратуры). Было тут выказана шмат трапных назіраньняў і высноваў, на якіх аднак не дазваляюць спыняцца межы газэтнага рэпартажу.

Асноўным дакладам другога дня быў даклад Ант. Адамовіча (зь Нью-Ёрку) — «Нацыянальныя літаратуры СССР». На пачатку дакладу быў дадзены разгляд тэрміналёгіі, у якой пад «нацыянальнымі літаратурамі» (або «літаратурамі народаў СССР») у савецкай практыцы разумеюцца ўсе нерасейскія савецкія літаратуры (прычым, што яны савецкія, звычайна апушчаецца, як нешта самазразумелае), тымчасам як пад «савецкай літаратурай» найчасьцей практычна і ў СССР і нат за межамі яго разумеецца адна расейская савецкая літаратура (што яна расейская — звычайна абмінаецца, таксама, відаць, як нешта самазразумелае — такое разуменьне, між іншага, выявілася і ўва ўсіх выступах першага дня канфэрэнцыі, за выняткам двух усяго паведамленьняў Ю. Пісьменнага й Н. Тэадаровіч, у якіх разглядаліся й нерасейскія савецкія літаратуры). Гэткая сваеасаблівая тэрміналёгія адлюстроўвае той бясспрэчны факт, што і гістарычна і практычна ў якасьці савецкае літаратуры найперш і найбольш выступае расейская савецкая літаратура, займаючы найбольш рэпрэзэнтацыйнае навонкі й выразна кіраўнічае, цэнтральнае палажэньне сярод усіх савецкіх літаратураў, адкуль і найбольшая ўвага да яе, найбольшая ейная вывучанасьць і ведамасьць у цэлым сьвеце як літаратуры савецкае, ад якое ёсьць недзе й нейкія «нацыянальныя формы», адменьнікі ў нерасейскіх мовах, прынцыпова й істотна ад яе неадрозныя, а таму няважныя, няцікавыя, ня вартыя да вывучэньня, дык і ня вывучаныя, няведамыя, ато й прост нязнаныя ў сьвеце...

Галоўнай асаблівасьцяй сучаснага пэрыяду нацыянальных савецкіх літаратураў у дакладзе вызначаецца зьява рэгабілітацыі ў тым найшырэйшым сэньсе, які набыў гэты тэрмін у савецкім ужытку апошніх год і пры якім ён абыймае ня толькі рэгабілітацыю прозьвішчаў, але й замацаванага за імі «творства», «спадчыны» ды наагул цэлага ліку літаратурна-мастацкіх зьяваў і рухаў. Адсюль і сучасны пэрыяд у гісторыі савецкіх нацыянальных літаратураў можна назваць пэрыядам рэгабілітацыяў, ці «рэгабілітансам», калі-б можна было гэтак сказаць у сугуччы з папулярным тэрмінам «рэнэсанс», які да дадзенага пэрыяду ўсё-ж яшчэ ня зусім пасуе. Асноўны зьмест гэтага «рэгабілітансу» ў руху да рэгабілітацыі нацыянальнага статусу сьпіхнутых за Сталінам на ступень правінцыяльных, ці рэгіянальных, нерасейскіх літаратураў СССР — рух, які выразна вычуваецца як абагульны, задзіночны за ўсімі паасобнымі рэгабілітацыямі прозьвішчаў, твораў і зьяваў тут.

У дакладзе быў дадзены агульны агляд асноўных фактаў рэгабілітацыяў апошніх год па нацыянальных літаратурах СССР, значаньне якіх тутака было куды вызначальнейшае, чымся значаньне рэгабілітацыяў, праведзеных у літаратуры расейскай, паколькі з рэгабілітацыяй г.ткіх, прыкладам, постацяў, як Рафі, Рафаэль Патканян, Егішэ Чарэнц, Ваган Тотовэнц, Аксэль Бакунц у армянскай літаратуры, Паолё Яшвілі, Тыцыян Табідзэ, Міхал Джавагішвілі ў грузінскай, Ахмэд Джэвад, Гусэйн Джавід, Міхал Мушфік — у азэрбайджанскай, Сыбгат Сунчалай, Закір Дардмэнд, Галімджан Ібрагімаў — у татарськай, Абдулраўф Фітрат, Магмуд Бату, Абдула Кадырый — у ўзбэцкай. Максім Гарэцкі, Уладзімер Дубоўка, Язэп Пушча — у беларускай, Мікола Зэроў, Мікола Куліш — у ўкраінскай — рэгабілітаваліся пісьменьнікі такое ўдзельнае вагі, месца й ролі ў літаратурным працэсе, як у літаратуры расейскай былі хіба Аляксандар Блок, Сяргей Есенін, Уладзімер Маякоўскі, Максім Горкі, ато мо й нат Гогаль, Лермантаў, Тютчаў, Дастаеўскі, у рэгабілітацыі якіх там і ня было патрэбы, бо яны ніколі й не рэпрэсаваліся. Не зважаючы на тое, што адзіночныя з выдатных пісьменьнікаў дасюль і не рэгабілітаваныя (як, прыкл., Алесь Гарун, Франьцішак Аляхновіч, Андрэй Мрый у беларускай літаратуры, або Панталяймон Куліш, Валадзімер Віньнічэнка. Мікола Хвылёвы ў украінскай) — рэгабілітацыі ў нацыянальных літаратурах не выглядаюць яшчэ на скончаныя, як гэта дазваляе думаць прыклад беларускай літаратуры, дзе самаапошнім часам рэгабілітаваныя Уладзімер Жылка, Адам Бабарэка й зусім нядаўна — Ларыса Геніюш.

Далей у дакладзе была адзначаная зьява «самарэгабілітацыяў» у колькіх формах — як працягу рэгабілітацыі самымі ў пісьменьнікаў, якім пашчасьціла зьвярнуцца ў літаратуру яшчэ жывымі (як прыклад, быў паданы Ўладзімер Дубоўка, ужо й адзначаны прэміяй Янкі Купалы за гэткую самарэгабілітацыю, прароблёную ім пры гэтым безь якое-небудзь пракуднае шкоды для собскае годнасьці й творчасьці), як рэгабілітацыі старэйшымі пісьменьнікамі ранейшых лініяў творства й становішчаў, ад якіх яны мусілі адыходзіць пад ціскам сталіншчыны (як, прыкл., у ўкраінскага паэты Міколы Бажана, паводля ацэны некаторых замежных украінскіх крытыкаў), асабліва — лініі й становішча калішняга «папутніцтва». Апошняя зьява прыводзіць да зьяўленьня й зусім новых «папутнікаў», а пад шэсьцьдзесятыя гады — і маладых «нэапапутнікаў», на месцы празваных «шэсьцьдзясятнікамі». З другога боку, як рэакцыя на апошнія зьявы, адбылася й «самарэгабілітацыя» гістарычнага «напастоўства» ў сваесаблівым «нэанапастоўсьцьве». Нарэшце, устанавілася й пазыцыя суйснаваньня абедзьвюх лініяў — пазыцыя свайго роду «каэкзыстэнцыялізму», на якой затрымваецца калі не бальшыня, дык паважны й кваліфікаваны кворум пісьменьнікаў, асабліва з новых прыбышоў у літаратуру. На гэтую пазыцыю, як і на само «нэапапутніцтва», апошнім часам і кіраваўся найбольшы агонь з боку партыйнага кіраўніцтва.

Аднак, апошнім часам перад нацыянальнымі літаратурамі СССР паўстала праблема й самага йснаваньня іх, у сувязі з зафіксаванаю ўжо ў новай праграме КПСС тэзаю «сьціраньня межаў» між нацыямі й мовамі аж да поўнага зьліцьця іх. Тэзаю гэтаю нацыянальныя пісьменьнікі, забавязваныя да услаўленьня й вітаньня камунізму, ставяцца ў трагічнае палажэньне калішніх рымскіх глядыятараў зь іхным выходным вітаньнем — «Слаўся, Цэзару, аканаваныя на сьмерць вітаюць цябе!» Выйсьце з гэтага палажэньня прыродна ляжыць на дарозе самазахаваньня — найперш нацыянальнага, паколькі індывідуальнае яшчэ ня гэтак актуальнае ў дадзеным мамэньце. Дык нацыянальныя літаратуры ўсё больш і больш ператвараюцца ў арэну змаганьня за нацыянальнае самазахаваньне, асабліва актуальнай і ажыўленай дзялянкай якое, зусім прыродна, стаецца сэктар мовы. У гэтым змаганьні самыя змагары, як і назіральнікі савецкае літаратуры звонку, тымчасам поўныя пэўнасьці ў пазытыўнасьці выніку.

Усе гэтыя асноўныя палажэньні каляд зьвюхгадзіннага дакладу былі ілюстраваныя на матар'яле розных савецкіх нацыянальных літаратураў.

Даклад пра нацыянальныя літаратуры СССР быў дапоўнены судакладам І. Кашаліўца пра апошняе дзесяцьгодзьдзе у ўкраінскай літаратуры й кароткімі паведамленьнямі — д-ра Багдана Фэдэнкі пра эстэтычныя й грамадзкія ідэі маладых украінскіх пісьменьнікаў, Р. Трахо пра сучасныя паўночнакаўкаскія літаратуры, С. Тэкінэра пра навейшую літаратуру Азэрбайджану, Л. Мкртчана пра сучасную армянскую літаратуру, П. Урбана пра нацыянальна-гістарычную праблематыку ў некаторых падсавецкіх літаратурах (галоўна на беларускім матар'яле), Т. Каландадзе пра новую грузінскую літаратуру, В. Зунуна пра літаратуры Туркестану й д-ра Ст. Станкевіча пра выдавецкую справу ў нацыянальных рэспубліках СССР. Канфэрэнцыя скончылася дыскусіяй, у якой узялі ўдзел І. Майстрэнка (Украінец), І. Акбэр (Азэрбайджанец), д-р С. Тарасян (Армянін), Г. Дыкаў, праф. Шумілін, М. Менчукоў (Расейцы), праф. Б. фон-Рыхтгофэн (Немец) і праф. П. Фэдэнка (Украінец). Уся канфэрэнцыя прайшла вельмі ажыўлена, пры вялікай зацікаўленасьці аўдыторыі й на адпаведным навуковым узроўні.

На асамблеі Інстытуту былі прынятыя новыя запраўдныя сябры — С. Кабыш (на месца выбылога А. Марговіча — абодвы Беларусы), М. Імнаішвілі (Грузін, на месца выбылога д-ра В. Чхэнкэлі), інж. С. Доўгаль (на месца памерлага праф. А. Юрчэнкі — абодвы Ўкраінцы), І. Акбэр (Азэрбайджанец — на месца памерлага Гаджыбэйлі), а таксама праф. О. Фрэдэрыксэн (амэрыканскі дараднік Інстытуту) і д-р Г. Брэкер (нямецкі саветавед) як першыя запраўдныя сябры Інстытуту зь неэмігрантаў з СССР. У ганаровыя сябры Інстытуту запрошаны амэрыканскі навуковец праф. І. Г. Эрыксэн.

Асамблея выслухала й абмеркавала справаздачы дырэктара Інстытуту д-ра Г. Шульца й старшыні Навуковае Рады д-ра С. Тарасяна зь іхнае працы за час ад 1 ліпеня 1961 г. па 30 чырвеня 1963 г., меркаваньні дырэкцыі пра пляны працы на наступныя два гады, ды дала й дырэкцыі й навуковай радзе абсалюторыюм, прызнаўшы працу абедзьвюх добраю. За дырэктара быў пераабраны д-р Г. Шульц, на заступніка дырэктара абраны праф. А. Главінскі (Украінец). У Навуковую Раду абраныя: С. Кабыш (ад Беларусаў), праф. П. Фэдэнка й Ф. Гаенка (ад Украінцаў), праф. М. Новак-Дэкер і М. Галай (ад Расейцаў), д-р С. Тарасян (ад Армянаў), М. Імнашвілі (ад Грузінаў), М. Эмірджан (ад Азэрбайджану), праф. А. Аўтарханаў (ад Паўночнага Каўказу), д-р Э. Кырымал (ад Крыму), д-р А. Бэрды-Мурат (ад Туркестану) і праф. Т. Даўлечын (ад Татара-Башкіраў) — апошняга Рада абрала на свайго новага старшыню.

На Асамблеі былі таксама разгледжаныя й прынятыя некаторыя зьмены ў статуце Інстытуту ды некаторыя бягучыя справы, што ня маюць асаблівае цікавасьці вонках Інстытуту. Старшыняваў на Асамблеі, як і папярэднімі гадамі, Ант. Адамовіч (Беларус).

**Супрацавень**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

**Беларуская школа-інтэрнат імя сьв. Кірылы Тураўскага у Лёндане ўжо прыймае ўступныя заявы ад кандыдатаў на новы школьны год, які пачынаецца ў верасьні 1963 году.**

**Кандыдаты павінны быць хлапцамі беларускага паходжаньня, г. зн. прынамсі адзін зь іхных бацькоў павінен быць Беларусам. Яны павінны мець скончаных 8, але меньш чым 12, гадоў перад 1-шым верасьнем 1963 году.**

**Лік вольных месцаў у школе — вельмі абмежаваны. Заявы будуць разглядацца ў парадку атрыманьня. Дзеля гэтага ўсе бацькі, якія жадалі-бы паслаць сваіх сыноў у Школу сьв. Кірылы Тураўскага ў наступным школьным годзе, павінны ў сваім собскім інтарэсе зьвярнуцца ў гэтай справе як найхутчэй да кіраўніцтва школы.**

**Ува ўсіх справах зьвязаных з школаю трэба зьвяртацца да айца Кіраўніка, які будзе заўсёды рады даць усе неабходныя інфармацыі і выслаць праспэкт школы тым, якія яго жадаюць.**

**Пісаць трэба на адрас:**

**The Rev. Headmaster**
**St. Cyril's House**
**41, Holden Road, London, N. 12**

**П. СЫЧ**

# Сьмерць і салаўі

**Працяг**

5

Тое, што пачалося ў гэты мамэнт, а 2-й гадзіне 2-га травеня, ніяк ня можна назваць «гэнкэрам» — крыкам дзікіх гусей з выраю — мяккім, сумным, лагодным, настальгічным

Грымнула найцяжэйшая гармата. Гэта быў сыгнал. І, як кажа адзін наш мовавед «ударыла і пашла маква»... За гэтай harmaтай зараўло больш за тысячу іншых: цяжкія, лёгкія, супрацьпанцырныя, супрацьцятунскія, мінамёты цяжкія, мінамёты лёгкія. Усё біла па пазыцыях праціўніка: далёкабойныя гарматы білі па далёкіх становішчах артылерыі, якія знаходзіліся 30 кілямэтраў ад пляцу бою, іншыя вальцавалі ўвесь пляц, на які мы мелі наступаць. Зямля дрыжэла пад нагамі, зямля гарэла, а ў паветры вылі мільёны д'ябраў. («Земля тряслась, как наши груди» — Лермантаў, «Бородино»). Барадзінская кананада ў параўнаньні з монтэ-касынскай, была мініятурай. Мелася ўражаньне, што глядзім у нейкі жудасны, вялізарны пякельны кацёл, дзе ўсё гарыць, кіпіць, пераварачваецца...

Колькі тонаў зялеза змарнавалі падчас гэтай кананады — цяжка сказаць, і, здаецца, ніхто гэтага не рахаваў. Гэтая навала згодна з плянам трывала 40 хвілін. Мы назіралі яе, як глядачы з лёжы нейкага макабрычнага тэатру. Нават заўзяты пэсымісты дзядзька Лукаш крыкнуў:

«Дык мы-ж пойдзем як нож у масла! Пасьля гэтага там застанецца толькі кучка смуроду!..

Валодзька Мацкевіч глытаў вачыма гэтую сцэну. (Ён-жа хацеў быць героям). Таму сказаў з тонам расчараваньня:

«Там нам нічога ня будзе рабіць».

Памыліліся, нажаль, абодва. Засталося ўсё, а работы было шмат зашмат: восем дзён крывавіцца і паміраць.

Нехта можа паставіць пытаньне: як пасьля такой навалы там нехта мог застацца жывы. Зусім проста. Кажуць: «Хіцёр Зьміцёр, але і Саўка ня дурны». Немцы ведалі, што бяз артылерыйскага падрыхтаваньня ніхто ня зможа штурмаваць, таму мелі пабудаваныя сховішчы на адхонах — «мёртвых полях», куды не магла дастрэліць ні артылерыя, ні мінамёты. Вось-жа адразу, як артылерыйскую навалу перанесьлі на далейшыя пазыцыі, яны папаўзьлі ў бункеры. Пры гэтым бункеры былі так моцна збудаваныя, замаскаваныя, на іх быў пакладзены дэтанацыйны пласт каменьняў, на якіх гранат разрываўся. Пэўна-ж глушыў жыхара бункера, але вялікай шкоды яму не рабіў. Проста, змарнавалі сотні тонаў волава і зялеза.

Гарматы малацілі камяністыя горы дакладна, колькі прадбачвалася паводле пляну. Пасьля перанесьлі агонь на далейшыя аб'екты.

Немцы адбрэхваліся слаба. Ашчаджалі амуніцыю, якая ім пазьней прыдалася. Яны толькі фарамі і ракетамі асьвятлялі поле, што яшчэ павялічала макабрычнасьць відовішча.

Але затое, калі нашая артылерыя перанесла агонь далей наперад — слова ўзяла нямецкая артылерыя і мінамёты.

Сьвісток. Наперад пабеглі на чале з афіцэрамі два патрулі разьміноўваць поле і трасаваць сьцежкі. За імі мелі ісьці мы. Але ўзьніклі праблемы: папершае магнэтычныя іголкі сапэраў навар'яцелі, бо ўсё поле засыпанае зялезам, падругое Немцы ўжывалі драўляныя міны, на якія не рэагуе магнэс. Жаўнеры з гэтых патрулёў узялі штыкі і імі пачалі наколваць грунт, ды шукаць мінаў. Але працавалі яны ня доўга. На іх рынулася стыхія артылерыйскага агня з усіх чатырох старон. Абодва патрулі былі выбітыя.

Чытач можа выказаць сумлеў: як гэта так, што Немцы стралялі з чатырох бакоў?

А вось-жа так было.

Абедзьве арміі: 5-я амэрыканская і 8-я ангельская улезьлі ў даліну ракі Ліры і Рапідо не здабыўшы гораў справа. А якраз там былі становішчы нямецкай артылерыі, якая біла нас ззаду. Найгорш нам дакучлі гарматы з Бэльмонтэ, Атінэ і Цыфалько, якія білі якраз ззаду. Стваралася дэпрэсыйнае ўражаньне, што нас выбівае нашая артылерыя. Выявілася, што не. Тут наша артылерыя працавала прэцызыйна. Найгоршыя былі нямецкія гарматы на танках. Яны нас малацілі з аднаго месца, іх засеклі, г. зн. выкрылі. Туды ішла навала нашай артылерыі, ляцелі самалёты, але іх там ужо ня было: яны пераехалі кілямэтар далей і схаваліся ў кусты. Праз пару мінут стралялі далей. І гэтак паўтаралася забава п'яных расейскіх афіцэраў «Куку»...

Але вяртаюся да тэмы.

Нашыя гарматы перанесьлі агонь на далейшыя пазыцыі. Пабеглі трасуючыя патрулі. Іх выбілі.

Трэба было ўставаць і йсьці. А як цяжка ўставаць, ды бегчы пад град зялеза і волава!.. Найгорш, як падняць жаўнераў. Яны пераважна не страляныя. Нейкі дзядзька спад Баранавіч ці Вялейкі ня быў зацікаўлены ў спрэчцы Гітлера з Рыдзам-Сьміглым і таму ў яе ня ўмешваўся. А цяпер ён апынуўся пад лявінай волава.

— Хлапцы, наперад! Хто залягае — той гіне! Наперад!..

Аднак наперадзе стыхія артылерыйскга агню і сьмерць.

# Лягенды карысныя й шкодныя

(Заканчэньне з 3-ай бач.)

дыскутуе з апанэнтам, колькі стараецца пакласьці на лапаткі аргуманты, выдуманыя сабой.

К. Ходыніцкі («бязбожна бальшавіцкім мэтадам») піша:

«Вестка аб мучаніцтве за Альгерда трох праваслаўных вернікаў не перахавалася ані ў хроніках літоўскіх, ані ў тагачасных летапісах ноўгарадзкіх і пскоўскіх... І адно толькі знаходзім весткі аб гэтым аж паўтара стагодзьдзя пазьней у маскоўскіх крыніцах.»

Пратапрасьвіцер М. Лапіцкі адказвае: «Хіба-ж ня можна лічыць прамаўляючым цьверджаньнем, што Сьв. Віленскіх Мучанікаў ня было, абасноўваючыся на тым, што ў летапісах не згаджаюцца даты іхнае сьмерці, кананізацыі ды месца паховінаў. Ідучы такой дарогай, можна прыйсьці да высnaву, што ня было і Мэльхізэдэка.»

Калі К. Ходыніцкі, гаворачы аб праваслаўных мучаніках, дзівіўся, чаму аб іх маўчаць сучасныя летапісы праваслаўных краін, (хаця — дзякуючы сваім купцом — як у Ноўгарадзе так і ў Пскове маглі ведаць, што робіцца ў Вільні), дык гаворачы аб каталіцкіх мучаніках — тут ужо ня можа не зьвярнуць ягонай увагі поўнае маўчаньне летапісаў каталіцкіх краін. Маўчаньне гэтае тым больш дзіўнае, што пад бокам Літвы знаходзіўся тады Крыжацкі ордэн, якому вельмі былі-б на руку падобныя перасьледы хрысьціян у Вільні, і які-б не прамінуў-бы выкарыстаць гэта (калі-б такі факт быў) для свае антылітоўскай прапаганды ў Заходняй Эўропе, адкуль, бяручы грошы й людзей, мусіў-жа нечым выказацца, што гэтыя грошы й людзі яму патрэбныя.

К. Ходыніцкі піша:

«Праявы рэлігійнага фанатызму з боку ліцьвіноў былі для тагачасных летапісцаў ідэальным доказам канечнасьці барацьбы зь Літвой і ўвядзеньня туды мячом хрысьціянства. Аднак усе польскія і крыжацкія крыніцы не ўспамінаюць аб мучаніцтве 14 францішканаў у Вільні.»

Пратапрасьвіцер М. Лапіцкі адказвае: «Не зьяўляецца пераконваючым гэтаксама і другое цьверджаньне, быццам Сьв. Віленскіх Мучанікаў ня было зусім, абгрунтаванае толькі на тым, што аб іх успамінаюць расейскія летапісы і «неразгаданыя» Кронікі Інфлянцкс, а нічога не ўспамінае р.-каталіцкі Захад. Як ведама, р.-каталіцкі Захад, з часоў крыжовых паходаў ды інквызыцыі, паліў ня толькі кнігі і дакуманты аб іншых веравызнаньнях, але і людзей, таму, калі і былі ўспаміны аб Сьв. Віленскіх Мучаніках, дык яны сьведама зьнішчаны.»

І яшчэ далей 43 радкі на гэтую тэму (шпількай у бок сваім «братом у Хрысьце»), хаця усё гэта зусім не на тэму. Такі спосаб вядзеньня дыскусіі даводзіўбы, што пратапрасьвіцер М. Лапіцкі ня вельмі і хоча дыскупаваць, у душы прызнаючы слушнасьць сваім праціўнікам. Але такі спосаб вядзеньня дыскусіі можа таксама сьветчыць і аб браку пашаны да сябе, як да духоўнай асобы, ды аб браку пашаны да сваіх чытачоў, бо-ж так пісаць дыскусыйны артыкул можна толькі для вельмі цёмнай масы. Але Бог зь ім.

Некоторыя мае сябры (у сувязі з маімі артыкуламі аб Рагнедзе) папрыяцельску мяне павучаюць, што змагацца з лягендамі могуць толькі недапечаныя студэнты, якія яшчэ не разумеюць, што гістарычныя лягенды ўзбагачваюць нацыянальную гісторыю, і калі ўсе народы шануюць свае лягенды, дык тым больш павінны гэта рабіць мы, бо змаганьне зь лягендамі прывядзе толькі да абядненьня і так — паводля іх — небагатай нашай гісторыі. Пры гэтым дадаюць, што калі мова йдзе пра такую Рагнеду-Гарыславу, дык толькі сьляпы ня бачыць, якія вялікія паслугі лягенда гэтая аддала беларускаму Адраджэньню.

Вось-жа, накідаючы збоку тут лягенду аб Рагнедзе, падсумаваньне ўсіх плюсаў і мінусаў якой належыць яшчэ будучыні, мы маем якраз нагоду затрымацца тут над аднэй нашай гістарчнай лягендай, дзе падсумаваньне гэтае можна зрабіць ужо сяньня. Лягендай гэтай ёсьць лягенда аб Крывэ-Крывэйце, галоўным паганскім сьвятары ў Вільні. Выдуманая чужынцамі ў XV ст., грунтуецца яна на баламутным запісе прускага летапісца П. Дысбурга аб прускім Крывэ з XIV ст. Паводля Дысбурга, улада гэтага прускага папы сягала далёка паза прускія землі, аж да Эстоніі ўключна. З гэтага ўжо ня трэба было вялікай фантазіі, каб — пасьля заваяваньня Прусіі крыжакамі — перакінуць гэтага Крывэ на літоўскую зямлю, дзе — у заходняй яе частцы — жылі паганскія балты. Міталёгі аднак перакінулі Крывэ (цяпер — Крывэ-Крывэйта) не да балтаў, але ў нашую Вільню, зьмяняючы гэтым ня толькі рэлігію жыхароў крывіцкай Вільні (якая тады не называлася яшчэ Вільняй, але Крыў-горадам), але і ейны этнічны выгляд. Лягенда аб Крывэ-Крывэйце ня гледзячы на гэта была ў нас ня толькі прынята, але й разьвітая далей. Радзівілаўскія пісакі ствараюць лягенду аб Радзівілаўскім прашчуры Ліздэйку, што — як Крывэ-Крывэйта — разгадваючы сон Гэдыміна, напрарочыў аб будучай Вільні і за гэта быў празваны Радзі-вілам, як той, што радзіў закласьці Вільню.

Тут паўстае пытаньне: якім гэта чынам была прынята (і разьвіта) у нас лягенда, якая так войстра зьмяняла ўяўленьні аб нашай старой гісторыі? Восьжа, калі мова йдзе про рэлігію старой Вільні, дык тут, бязумоўна, уплыў свой мела няправільнае разуменьне т. зв. «хросту Літвы» Ягайлам. Бо калі Ягайла, як кажуць, ахрысьціў жыхароў Вільні, дык значыць, што перад гэтым Вільня была паганскай. Але-ж пасьля гэтага «хросту» Вільня аказалася праваслаўнай, а не каталіцкай. Але хто тады (як і сяньня) над такімі драбніцамі задумоўваўся-б? Калі-ж мова йдзе пра этнічную зьмену старой Вільні, дык пытаньне гэтае (балты ці славяне) для нашай шляхты было цалкам абыякавым, — літоўскі патрыятызм нашай шляхты не перашкаджаў ёй — як і шляхце іншых народаў — выводзіць свой радавод з чужых краін, падмалёўваючы гэтым сваю кроў пад блакітны колер. (А ўрэшце — колькі сягоньня людзей ведае, што балты гарадоў не будавалі?).

У першай палове XIX ст. знайшоўся ў нас чалавек (Ф. Бэрнатовіч), які зь лягенды аб Крывэ-Крывэйце стварыў на ўзор Вальтэр Скота вялікі гістарычны раман: «Поята, дочка Ліздейкі, або Ліцьвіны ў XIV ст.» (1826 г.). Раман гэты, з мастацкага боку напісаны вельмі добра, можа нават задобра, ня мог не спадабацца шырокай публіцы, што пацьвярджае і шырокае яго распаўсюджаньне (дзесяць выданьняў у польскай мове, а таксама пераклады ў расейскую, нямецкую, францускую, ангельскую ды жамойцкую мову). Калі-ж узяць на ўвагу, што гэты раман, заснаваны на лягендзе, а гэтым самым і ўсе гістарычныя падзеі падагнаныя пад гэтую дурацкую лягенду, быў ня столькі гістарычным, колькі антыгістарычным раманам, лёгка сабе ўявіць, якія вялікія спусташэньні ён выклікаў у галовах сваіх чытачоў (у першую чаргу — у галовах нашай шляхты). Адзіным супрацьдзеяньнем яму магла-б быць толькі гістарычная літаратура, але — не гаворачы ўжо пра тое, што навуковая літаратура ніколі ня мае такой шырокай аўдыторыі як прыгожае пісьменства — тагачасная нашая гістарыяграфія, ня могучы сама яшчэ вылезьці з балота лягендаў і стацца навукай, ня толькі не супрацьставілася шкодным уплывам гэтага раману на шырокую публіку, а яшчэ й сама памагала. (У 1856 годзе быў выданы гісторыкам Т. Нарбутам схвальшаваны «Дзёньнік падарожжа крыжацкага пасла гр. Кібурга», які, як «гістарычны помнік», «пацьвярджаў» існаваньне ў старой Вільні паганскага «Зьніча»).

Спусташэньні, што зрабіў гэты раман у галовах нашай шляхты, вылезьлі на верх, калі ў канцы XIX ст. пачаўся жамойцкі нацыянальны рух, (у якім не апошнюю ролю згуляў і гэты раман, дапамагаючы Жамойцам перарадзіцца ў Ліцьвіноў і пачаць наступ і на літоўскую гісторыю і на літоўскую Вільню). Гэты жамойцкі наступ на ўсё літоўскае мусіў-бы спаткацца з вялікім адпорам з боку нашай шляхты, якая — хоць моўна і спалянізаваная — усё яшчэ уважала сябе за Ліцьвіноў. Але якраз у выніку забойчага дзеяньня гэтага раману на мазгі некалькіх пакаленьняў нашай шляхты, шляхта гэтая, хоць і ня чула вялікай сымпатыі да Жамойцаў, перад імі скапітулявала, бяз бою прызнаўшы жамойцаў «таксама Ліцьвінамі», ці дакладна кажучы — «этнаграфічнымі ліцьвінамі», пакідаючы за сабой назоў «гістарычных ліцьвіноў», а гэтым самым аканчальна зраклася свайго славянскага паходжаньня. У выніку — дарога Жамойцам на Літву і Вільню аказалася адчыненай. У 1939 годзе з ласкі Масквы (і багаславенства Крывэ-Крывэйты) Жамойцы увайшлі ў Вільню і нашая старая Вільня сталася Вільнюсам. Розныя людзі розна да гэтага паставіліся, але ў душы мабыць усе прызнавалі, што ўваход Жамойцаў у Вільню гэта паварот іхны ў іхнюю старую сталіцу. Характэрным тут было і тое, што беларускія хадэкі віталі жамойцкую армію Багдановічавым вершам «Пагоня».

На заканчэньне трэба яшчэ сьцьвердзіць, што лягенды аб віленскіх мучаніках — з увагі на свой антыгістарычны зьмест і палітычную тэндэнцыю — гэта тая самая лягенда аб Крывэ-Крывэйце, ці — як той казаў — гэта толькі другі бок таго самага мэдалю. І калі ўважаць, што гістарычныя лягенды (тыпу Траянскага каня) маюць перад гісторыяй нейкія заданьні, дык прызнаючы лягендзе аб Крывэ-Крывэйце заданьне ачышчэньня дарогі Жамойцам у нашую Вільню, трэба думаць, што заданьнем для лягендаў аб віленскіх мучаніках (пад аховай рэлігійнага культу) ёсьць памагчы нам сягоньня пагадзіцца з «фактам», што Вільня ніколі ня была нашай. («Сие мученики происходили из литовского города Вильны и, по тогдашнему обычаю, были огнепоклонниками, подобно как и другие жители той страны»).

Між іншага, пратапрасьвіцер М. Лапіцкі зьяўляецца адным з рэдактараў «Беларускай Думкі», часапісу, які стараецца паціханьку перадаць Жамойцам наш гістарычны назоў «Ліцьвіны».

**Часлаў Будзька**

## *Зь беларускага жыцьця*

# Беларускае селішча адпачынку

Беларускае грамадзтва Задзіночаных Штатаў Амэрыкі ў днях 4-7 ліпеня сёлета перажыла дні запраўднага нацыянальнага ўздыму. У гэтых днях адбылося адкрыцьцё першага ў Амэрыцы Беларускага Селішча Адпачынку «Менск», якое знаходзіцца ў прыгожай і здаровай мясцовасьці Касткільскіх гораў у штаце Нью Ёрк, каля 90 міляў на поўнач ад гораду Нью Ёрк. У Амэрыцы ўвайшло ўжо ў звычай, што летам амаль усе працоўныя ўцякаюць на пару тадняў зь вялікіх душных гарадоў у спэцыяльна пабудаваныя для гэтага адпачынковыя дамы ці цэлыя селішчы, званыя паангельску рэсортамі. Гэтак робяць і мясцовыя Беларусы. Але дагэтуль яны расьцярушваліся па розных агульных ці іншанацыянальных селішчах. Сёлета-ж упяршыню маюць нагоду праводзіць свой адпачынак у супольнай беларускай сям'і.

На ўрачыстае адкрыцьцё гэтага селішча зьехаліся зь Нью Ёрку, Нью Брансьвіку, Саўт Рывэру, Кліўлэнду, Дэтройту, Чыкага й іншых прыньюёрскіх мясцовасьцяў звыш 600 Беларусаў, што ўсе не маглі памясьціцца (селішча пакуль што разьлічанае на 400 чалавек), і некаторыя былі нанач разьмешчаныя ў суседнім украінскім селішчы або начавалі ў сваіх аўтамашынах.

Урачыстасьць адкрыцьця пачалася 4-га ліпеня вечарам наладжаньнем традыцыйнага беларускага сьвята Купальля з адпаведнымі песьнямі, купальскім вогнішчам і пушчаньнем вянкоў на возеры, што ўпіраецца ў беларускае селішча й часткава належыць да яго. 5-га ліпеня адбываліся спартовыя гульні, а вечарам была танцавальная вечарына пад адкрытым небам.

Галоўная-ж урачыстасьць адкрыцьця мела месца ў суботу 6-га ліпеня. А 3-яй гадзіне дня перад галоўным будынкам селішча адбыўся ўрачысты малебен, адпраўлены Яго Высокапраасьвяшчэнствам архіяпіскапам БАПЦарквы Васілём у суслужэньні пратаярэя БАПЦарквы ў Таронта Міхала Мацукевіча, пратаярэя БАПЦарквы ў Кліўлэндзе Аляксадра Крыта й сьвятара Украінскай Аўтакефальнай Царквы пратаярэя Сьцяпана Біляка. Падчас Багаслужбы прыгожа пяяў хор БАПЦарквы з Нью Ёрку пад кіраўніцтвам сп. Каптуровіча. Пасьля заканчэньня Багаслужбы мела месца афіцыйнае адкрыцьцё селішчы.

Яно пачалося кароткай прывітальнай прамовай старшыні Рады Дырэктароў карпарацыі селішча сп. Васіля Юрцэвіча й перарэзаньнем ягонымі дзяцьмі, прыбранымі ў нацыянальныя вопраткі, сымбалічнай стужкі. Пасьля гэтага Уладыка Васіль сказаў гарачую прамову, у якой галоўна падчыркнуў нацыянальна-грамадзкае значэньне селішча й заклікаў прысутных, каб належна падтрымлівалі яго. Тады ад імя Рады Дырэктароў карпарацыі селішча выступіў зь вельмі рэчовай прамовай д-р Вітаўт Кіпель, які паінфармаваў аб праробленай працы дзеля куплі й зарганізаваньня селішча, а таксама й аб плянах ягонага разьвіцьця ў бліжэйшай будучыні.

Пасьля прывітальных прамоваў прадстаўніка Украінскага Работніцкага Саюзу, прадстаўніка Украінскай Камбатанцкай Арганізацыі ды прадстаўніка Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы вышэй успомненага пратаярэя С. Біляка, атрымаў слова заступнік старшыні Беларускага Кангрэсавага Камітэту сп. В. Шчорс. Ён галоўна зьвярнуўся з заклікам пэрсанальна да новага старшыні Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня д-ра Ст. Станкевіча да супольнага супрацоўніцтва абедзьвюх арганізацыяў ува ўсіх важнейшых дзялянках беларускага нацыянальна-грамадзкага жыцьця ў Амэрыцы. У вадказ яму д-р Ст. Станкевіч, які прамаўляў наступным, зладжыў асьветчаньне, што адным з важнейшых зычэньняў новай Галоўнай Управы БАЗА, як і яго асабістым, як ейным старшынём, ёсьць наладжаньне такога супрацоўніцтва на здаровых нацыянальных падставах. Ён зазначыў, што вуглавым каменем такога паразуменьня й супрацоўніцтва якраз сталася гэтае селішча, у якім знайшлі ўжо супольную мову ўсе Беларусы добрае волі, не зважаючы на палітычныя ці арганізацыйныя розьніцы.

Далей прамаўлялі: старшыня Галоўнай Управы Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня сп-ня Вера Бартуль, ад беларускай калёніі Кліўлэнду сп. Ул. Дунец, ад Беларусаў Чыкага ген. Дзямідаў, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва д-р В. Тумаш, заступнік старшыні БАЗА Акругі Нью Ёрк сп. А. Несьцяровіч, старшыня БАЗА аддзелу ў Нью Джэрзі сп. С. Гутырчык, старшыня Беларуска-Амэрыканскай Дапамогі сп. А. Шукелайць, старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту ў Пасэйку сп. Э. Ясюк, старшыня Галоўнай Управы Згуртаваньня Беларускай Моладзі Амэрыкі сп. В. Станкевіч. Напасьледак прадстаўнік Рады Дырэктароў карпарацыі селішча сп. К. Мерляк, які кіраваў урачыстасьцяй, выступіў з канчатковай прамовай, у якой горача падзякаваў усім прысутным за ўдзел у сьвяткаваньні й зьвярнуўся з заклікам належна падтрымліваць селішча.

Вечарам таго-ж дня адбылася вялікая танцавальная вечарына пад адкрытым небам на памосьце каля плывальнага басэйну, пераплятаная рознымі самадзейна-мастацкімі выступленьнямі. Спасярод іх трэба адцеміць выступленьні зь некалькімі народнымі танцамі ведамага тут танцавальнага гуртка ЗБМА пад кіраўніцтвам спа-ні Алі Орсы.

Наступнага дня ў нядзелю 7-га ліпеня адбылася ўрачыстая абедня ў тым-жа складзе, што й малебен папярэдняга дня. Беларусы каталіцкага веравызнаньня мелі таксама нагоду памаліцца ў роднай мове. Прыбылы дзеля гэтага кс. Ф. Чарняўскі правёў зь імі супольную малітву із сьпевамі.

Беларускае Селішча Адпачынку «Менск», як і наагул падобныя селішчы ў Амэрыцы, паводля свайго характару — гэта прадпрыемства камэрцыйнае. Тым ня меней, калі ходзіць пра нашае селішча, яно мае й вялікі нацыянальна-грамадзкі аспэкт. Ужо сам факт, што тут заўсёды знаходзіцца паважная колькасьць Беларусаў разам (у звычайныя дні каля 150-200 чалавек, у вікэнды — да 400 чалавек), мае сваё значаньне. Селішча будзе працаваць ня толькі ў летні сэзон, але й круглы год, асабліва зімой, бо тутака вельмі прыдатная аколіца для паляваньняў і лыжнага спорту. Апрача гэтага, спэцыяльны дом будзе адведзены для сталага жыльля беларускіх пэнсіянераў, якія за мінімальную на тутэйшыя ўмовы цану аднаго даляра ў дзень змогуць тут праводзіць супольна час. Ужо цяпер у селішчы адкрыты лягер для дзяцей, для якога адведзены таксама асобны дом. Звыш 20 дзяцей знаходзіцца цяпер тут пад даглядам беларускіх пэдагогаў, якія праводзяць зь імі нацыянальнае ўзгадаваньне.

Апрача гэтага, у селішчы будуць ад часу да часу ладзіцца розныя нацыянальна-культурныя імпрэзы. Ужо ў часе адкрыцьця селішча тут была наладжаная Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва вельмі цікавая выстаўка абразоў беларускіх мастакоў у вольным сьвеце: сп. П. Міраловіча, сп. В. Жаўняровіча й сп. М. Касака. Беларускі інстытут Навукі й Мастацтва у «дзень працы» (3-га верасьня) мае тут наладзіць акадэмію, прысьвечаную 100-ай гадавіне паўстаньня Кастуся Каліноўскага й ягонай газэты «Мужыцкая Праўда».

Яшчэ нядаўна актуальнай была праблема, ці ўдасца ўтрымаць гэтае селішча наагул. Сяньня-ж гэтая праблема болей ня існуе. Цяперака ўзьнікла іншая праблема — далейшае разбудовы селішча. І ў галоўнай залі селішча можна бачыць на сьцяне схематычны праект новага вялікага будынку селішча, выкананы інжынерам Гарошкам, які мае быць пабудаваны ўжо ў наступным 1964 годзе. Такія людзі, як д-р Б. Кіпель, сп. В. Юрцэвіч, сп. В. Пеляса, сп. В. Цярпіцкі, сп. Ю. Станкевіч і некаторыя іншыя, укладаюць у справу разбудовы селішча ня толькі ўсю сваю энэргію й вольную працу, але й увесь свой арганізацыйны й гаспадарскі спрыт.

Найважнейшы і найпрыемнейшы, аднак, мамэнт — што тут сярод Беларусаў павеяла запраўды новым, сьвежым духам. Лаянкі, грызьня й непаразуменьні, што былі сталымі спадарожнікамі лягернага жыцьця ў Нямеччыне, а таксама нярэдка й тут у Амэрыцы, здаецца, ужо адыйшлі далёка ў нябыт. Усюды пануе згода, гармонія й жаданьне супрацоўніцтва, а ўсё гэта авеяна ўзьнятай патрыятычнай атмасфэрай. І ў гэтым вялікая зарука таго, што будучае нацыянальна-грамадзкае жыцьцё нашых суродзічаў у Амэрыцы будзе разьвівацца новым і здаровым рэчышчам. Дык дай-жа Божа!

**Ст. Ст.**

# Выстаўка эміграцыйнай прэсы

Ужо 16 год існуе арганізацыя вольных журналістых-эмігрантаў з паняволеных камунізамам усходня-эўрапэйскіх краінаў — Аб'еднаньне вольнай прэсы. На працягу ўсяго існаваньня Аб'еднаньня ейная сядзіба знаходзіцца ў сталіцы Баварыі — Мюнхэне. У Аб'еднаньні прадстаўленыя журналістыя наступных нацыянальнасьяў: Альбаніі, Баўгарыі, Беларусі, Вугоршчыны, Эстоніі, Казакіі, Латвіі, Летувы, Польшчы, Румыніі, Расеі, Славаччыны, Чэхіі, Украіны і Югаславіі. Мэта арганізацыі — супрацоўніцтва й каардынацыя дзейнасьці журналістых-эмігрантаў і эміграцыйных выдавецтваў у справе рэпрэзэнтацыі й абароны інтарэсаў эміграцыйнага выдавецтва і ў пытаньні больш эфэктоўнага насьветленьня перад грамадзькасьцяй вольнага сьвету палажэньня й асьпірацыяў паняволеных народаў. Аб'еднаньне падтрымлівае цесны кантакт з Інтэрнацыянальнай фэдэрацыяй вольных журналістых, сядзіба якой знаходзіцца ў Лёндане, а таксама зь іншымі арганізацыямі журналістых.

Ад 26 чэрвеня да 18 ліпеня ў Мюнхэне адбывалася выстаўка эміграцыйных пэрыядычных і непэрыядычных выданьняў, зарганізаваная Аб'еднаньнем вольнай прэсы пры падтрымцы мюнхэнскіх гарадзкіх і баварскіх дзяржаўных уладаў. Апрача пералічаных вышэй эміграцыйных групаў-сяброў Аб'еднаньня, у выстаўцы бралі ўдзел прадстаўнікі ўсіх іншых народаў СССР.

На выстаўцы было паказана каля 650 экзэмпляраў пэрыядычных выданьняў (газэтаў і часапісаў) розных нацыянальнасьцяў, друкаваных эмігрантамі ў розных краінах сьвету. Гэтую лічбу ў некалькі разоў перавысілі кніжныя выданьні.

На беларускім стэндзе было выстаўлена 70 экзэмпляраў. Сюды ўваходзілі па адным нумары газэтаў і часапісаў і па адным экзэмпляры выданых у розных краінах брашураў і кніжак, якія беларускім арганізатарам выстаўкі ўдалося сабраць на мюнхэнскім грунце. Найбольшую колькасьць складалі кнігі.

Выстаўка не змагла адлюстраваць усёй выдавецкай дзейнасьці антыкамуністычнай эміграцыі, бо галоўны націск клаўся на паказ пэрыядычнай прэсы і выданых на эміграцыі школьных падручнікаў. Тым ня менш, выстаўка прадэманстравала шырокія памеры і вялікую разнастайнасьць эміграцыйнага выдавецтва. Гэтая выдавецкая дзейнасьць заслугоўвае вялікай павагі і пашаны, таму, што ажыцьцяўляецца яна ў большыні выпадкаў высілкамі ахвярных працаўнікоў пяра ў цяжкіх і складаных эміграцыйных абставінах.

*Ю. С.*

**ЧЫТАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ ГАЗЭТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»!**


**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. W. Duniec,** 3444 Marvin Ave., Cleveland 9, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon, Paris 9.**
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).




Беларуская газэта палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.
Выдавец: Уладзімер Бортнік
РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.